© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (1069) БЕЛАСТОК, 22 ЖНІЎНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## У Прэзідыуме ГП БГКТ

29 ліпеня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысвечана яно было абмеркаванню плана ажыццяўлення пастаноў VIII з'езду БГКТ. Прэзідыум на гэтым пасяджэнні разгледзеў таксама справаздачу аб выкананні бюджэту ГП БГКТ за першае паўгоддзе бягучага года.

— Я ж на гэтых дзесяцінках кожны каменьчык уласнай ступнёй пералічыў ды сваім потам зрасіў, а калі сыны падрастаць сталі, ад вуснаў сабе адымаючы, грош да граша збіраў і прыдбаў яшчэ дзве дзесяцінкі, ад суседа. „От, — радаваліся мы з жонкаю, — дзеці будуць мець пэўны кусок хлеба. Нават калі падзеляцца гаспадаркаю, дык кожнаму будзе па пяць дзесяцін...“ — Сямідзесяцігадовы Іосіф Кісель з Рагаўкі, што каля Сямяціч, змахвае дрыжачай далонню слязу і працягвае: — А яны, дзеткі, сваёй дарогаю пайшлі: абодва цяпер у Варшаве ўжо сем'і і кватэры маюць. Адзін вывучыўся арыенталістам, а другі эканамістам, абодва абаранілі дактараты. Дзесяцінкі мае ім зусім ні к чаму. Вось і здаю я іх дзяржаве... за пенсію... — Голас у І. Кіселя дрыжыць і рвецца: — Шкада, Божа, як шкада... Рабіў бы я іх, галубіў бы, але ж сілы няма... няма ўжо зусім...

Ён развітваецца, старэчымі цяжкімі і асцярожнымі крокамі кіруецца да дзвярэй кабінета.

# НА ПЕРАЛОМЕ



Хто жыў — да жніў! Фота В. Рудчыка.

— Справы, звязаныя з абаротам зямлёю — гэта аграмадная колькасць работы і сотні складаных праблем, — перарывае нашу задуменнасць, што запанавала пад уражаннем слоў І. Кіселя, кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела ўпраўлення горада і гміны Сямяцічы Тадэуш Вілінскі. — Працэс старэння нашай вёскі паскараецца і колькасць перадаваемай сялянамі зямлі павялічваецца. Калі на працягу некалькіх год да 1 студзеня 1976 г. у нашым горадзе і гміне мы перанялі ўсяго 42 гаспадаркі, дык ужо ў першым паўгоддзі гэтага года — 23 гаспадаркі, а 30 гаспадарак маем „на варштаце“ да пераняцця. На аснове вельмі дакладнага аналізу нам вядома, што да 1980 г. трэба будзе пераняць 250 гаспадарак за пенсію па старасці іх уласнікаў. Але з гэтага тыпу справамі мы маем найменш клопату. Горшая справа з тымі гаспадаркамі, якія ўласнікі перадаюць на ўласнасць дзяржавы за выплату ў растэрміноўку, бо самі працуюць у прамысловасці або на дзяржаўных пасадах і зямля ім зусім непатрэбная. Дзяржаўная цана за зямлю даволі высокая, як на ўмовы нашай гміны, яшчэ вышэйшыя цэны за луг і асабліва лес, будынкі таксама высока цэняцца. Вось для прыкладу: 1 га поля III„б“ класа — 11,5 тыс. зл., 1 га добрага лесу — каля 100 тыс. зл., сярэдні домік 50-80 тыс., хоць ён і трэцяй часткі гэтага не варты. І так збіраецца паважная сума, часам да паўмільёна злотых, а на тую „гаспадарку“ страх глядзець і невядома, што з ёю рабіць, такая яна занядбаная. І вось аббіваюць у нас парогі розныя ўласнікі такіх „гаспадарак“, каб як мага хутчэй іх прадаць дзяржаве ды грошыкі згарнуць. Не лягчэй вырашаць і справы прымусовага перайманя ад уласнікаў запушчаных гаспадарак. Мы ўжо пераняялі за пенсію 9 такіх гаспадарак. Возьмем вось Паўла Багушэўскага з вёскі Клопаты-Станіславы. Самотны гаспадар ва ўзросце 76 год. Гаспадарка: звыш 21 га ўгоддзяў, згніўшыя і разваленыя будынкі, 2,5 га аблогу. Ніколі не засее і не збярэ ўраджаю ў адпаведным часе. Калі ў нашай гміне сярэдні ўраджай жыта складае 24,2 цэнтнера з га, у яго — 14,2 ц/га, бульба ў гміне — 232 ц/га, у яго 156 ц/га. Словам, марнуецца зямля, а сам ён есць і спіць разам з курамі, гібее ў брудзе, аднак дабравольна аддаць гаспадарку не хоча. Або Даніла Гуменяк са Слохаў Аннапольскіх, таксама...

Наша рэдакцыйная „Волга“ доўга круціцца па палявых дарогах і ўрэшце рэшт трапляе на хутар Данілы Гуменяка. Адразу за вялікай нівай паваленага навальніцай жыта стаіць дом з комінам, але без даху! Гэты абшырны будынак „на дзве палавіны“ быў, відаць, збудаваны з адмысловага і дарагога дрэва „ў абрэз“, але цяпер ён амаль ужо згніў. Уваходжу ў сярэдзіну. Са згнілога полапа цячэ, дошкі, калісьці дасканала

(Працяг на стар. 4)




* * *

*Віруюць на зямлі маёй падзеі.*
*Ніколі іх не спыніць часу гаць.*
*Усё радзей спаўняюцца надзеі,*
*Усё часцей я мушу шкадаваць.*
*Я мушу шкадаваць аб тым далёкім,*
*Што ў памяці засела назаўжды...*

*Жыццё, жыццё!*
*Ты не праходзіш бокам,*
*Але і не ратуеш ад бяды.*
*Груз цяжкі паўсядзённасці суровай*
*Я адчуваю на сваім гарбе.*
*У пошуках гармоніі жыццёвай*
*Знаходжу супярэчнасці ў табе.*

*І чым глыбей я з прагаю пазнання*
*Ныраю у жыццёвыя віры,*
*Тым большыя твае выпрабаванні*
*І меншыя — знаходкі і дары.*

*Мабыць, і мне, жыццё,*
*Тваёй часцінцы,*
*Мне давялося дасягнуць тых меж,*
*Дзе ты не раздаеш свае гасцінцы,*
*І болей патрабуеш, чым даеш.*

**Анатоль Грачанікаў**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“



VIII З'ЕЗД БГКТ

# МЫ ХОЧАМ ДАЛЕЙ САМААХВЯРНА ПРАЦАВАЦЬ



*(Выступленне дэлегата з Варшавы Віктара Шведа)*

Маё выступленне будзе кароткім, бо шэраг спраў, пра якія я намерваўся сказаць, ужо былі закрануты А. Баршчэўскім — старшынёй варшаўскага гуртка БГКТ. Я як старшыня літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа“ хачу затрымацца над некаторымі справамі нашага літаратурнага руху.

Беларускі літаратурны рух у Народнай Польшчы з'яўляецца састаўной часткай Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Іменна стварэнне нашай арганізацыі і яе друкаванага органа „Нівы“ выклікала ў многіх беларусаў вялікія перажыванні, якія часта пераліваліся на паперу ў больш ці менш удалай літаратурнай форме. У 1958 г. паўстала літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“, якое згуртавала звыш 20 паэтаў і празаікаў. Яны на працягу мінулых 20 год пакінулі трывалы след на старонках „Нівы“ і ў кніжных выданнях БГКТ. І хоць з бегам часу частка іх перастала пісаць, прыйшло новае пакаленне, асабліва ў паэзіі. Уся наша літаратурная творчасць цесна звязана з жыццём беларускай нацыянальнай меншасці, з жыццём Беласточчыны, з жыццём усёй нашай краіны.

Зразумела, што кожны творца мастацкага слова для свайго развіцця патрабуе не толькі творчай апекі, але і канкрэтнай дапамогі, у нашым выпадку — з боку БГКТ. Вялікай дапамогай і заахвочваннем да далейшай творчай працы з'яўляецца магчымасць выдання сваіх твораў. Як вядома, БГКТ вядзе выдавецкую дзейнасць, але надта нераўнамерна. У гадах 1956-1971, г. зн. за 15 год, яно выдала 22 кніжкі з творамі мастацкай літаратуры, у тым ліку 4 літаратурныя альманахі, зборнік сцэнічных твораў „белавежцаў“, 10 літаратурных зборнікаў паасобных аўтараў, а таксама 7 рэпертуарных зборнікаў. З гэтага вынікае, што паяўлялася 3 кніжкі на працягу 2 год, апрача таго штогод выходзіў яшчэ „Беларускі каляндар“. На жаль, на працягу апошніх 5 год выдадзена толькі адзін зборнік вершаў і пяць выданняў „Беларускага календара“, апрача гэтага больш нічога не паявілася.

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# Дзяржаўны музей БССР

Два дзесяцігоддзі таму назад у Беларусі пачаў нараджацца Дзяржаўны музей БССР. Пачаліся актыўныя пошукі гістарычных дакументальных матэрыялаў, характарызуючых прыроду роднага краю, матэрыяльную і духоўную культуру беларускага народу ад старажытных часоў і да нашых дзён. На 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у 1967 годзе, у сталіцы Беларусі — горадзе Мінску такі музей быў адкрыты.

І вось сёння кожны, хто наведае музей, захапляецца гэтай унікальнай навукова-асветнай установай і вельмі важным метадычным цэнтрам музейнай работы ў Беларусі. У гарадах і сёлах рэспублікі налічваецца шэсць абласных краяводчых музеяў, многа гарадскіх і раённых, ёсць Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Музей савецка-польскай баявой садружнасці, ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава, мастацкі, літаратурныя музеі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Адама Міцкевіча. На беразе ракі Свіслач у горадзе-герою Мінску стаіць сярод старых дрэў самы дарагі сэрцу савецкага чалавека і яго зарубежных сяброў Дом-музей. У гэтым доме вясною 1898 года праходзіў першы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які залажыў аснову ленінскай партыі камуністаў. Ёсць музеі і на многіх прамысловых прадпрыемствах, у вышэйшых і сярэдніх навуковых установах.

Нягледзячы на сваю маладосць, музейная справа ў Беларусі ў гады Савецкай улады, а асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі, атрымала вельмі шырокі размах. У гэтым пераконвае, бадай, кожнага экспазіцыя і багацейшыя фонды Дзяржаўнага музея Беларускай ССР.

Зробім завочнае падарожжа па залах музея, размешчаных у прасторным будынку, што высіцца на вуліцы Карла Маркса ў Мінску. Першы паверх. У залах яго вы сустракаеце найбольш рэдкія экспанаты — бівень маманта і скульптурную кампазіцыю „Здабыванне агню першабытным чалавекам", археалагічныя матэрыялы эпохі нэаліту, знойдзеныя археалагічнымі экспедыцыямі ў час раскопак на беларускай зямлі, калекцыі мінералаў і горных парод, чучалы птушак і звяроў,жывучых у Беларусі, абшырны гербарый і многае, многае іншае. А ўсё гэта разам дазваляе прадставіць далёкае мінулае зямлі беларускай, яе фізіка-геаграфічныя асаблівасці і прыроду.

Па дакументальных матэрыялах і экспанатах, якія размешчаны ў залах першага і другога паверхаў, вы знаёміцеся з гісторыяй рэспублікі, якая раскінулася ля заходніх рубяжоў Савецкага Саюза і займае тэрыторыю 207,6 тысяч квадратных кіламетраў. Тут жа вы з задавальненнем пазнаёміцеся з жывёльным і раслінным светам, рэкамі і азёрамі. А тэрыторыя рэспублікі пакрыта густой сеткаю рэк агульнай даўжынёю 51 тысяча кіламетраў. Беларусь славіцца і сваімі лясамі, а таксама люстраной гладдзю блакітных азёр, якіх налічваецца каля 11 тысяч. Самае ж вялікае з іх — возера Нарач плошчай 80 квадратных кіламетраў, а самае глыбокае — возера Доўгае (да 50 метраў).

У залах другога паверха наведвальнікі знаёмяцца таксама з дакументамі і матэрыяламі, апавядаючымі аб рабочым руху і распаўсюджванні марксізму ў Беларусі ў другой палове XIX і ў пачатку XX стагоддзя. Тут увагу многіх прыцягваюць куток экспазіцыі з матэрыяламі аб распаўсюджванні „Іскры" ў Беларусі, партрэты палымянага рэвалюцыянера-дэмакрата Кастуся Каліноўскага, удзельніка рэвалюцыі 1905-1907 гадоў бальшавіка-ленінца П. Н. Лепяшынскага і іншых выдаючыхся барацьбітоў за народную справу.

У самай вялікай, дванаццатай зале музея размешчаны шматлікія экспанаты, якія раскрываюць гісторыю барацьбы партыі і народу за перамогу Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і абарону яе заваёў у перыяд грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. З вялікім зацікаўленнем экскурсанты разглядаюць тут Загад № 1 выканкома Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, паведамляючы аб пераходзе ўлады ў рукі Саветаў ў 1917 годзе, Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў 1919 годзе і іншыя унікальныя дакументы. Тут жа многія экспанаты расказваюць аб гераічных поспехах працоўных па аднаўленню народнай гаспадаркі, разбуранай першай сусветнай і грамадзянскай войнамі. Суседнія трынаццатая і чатырнаццатая залы прысвечаны індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і культурнай рэвалюцыі ў рэспубліцы, умацаванню і развіццю сацыялістычнай народнай гаспадаркі ў даваенныя гады.

Вялікае месца ў экспазіцыі музея (5 залаў) адведзена матэрыялам, паказваючым гераізм і адвагу савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, іх перамогу над фашысцкай Германіяй, а таксама матэрыялам і дакументам, расказваючым аб велізарных пераўтварэннях на беларускай зямлі ў пасляваенны перыяд (ад 1945 да 1975 года). Асабліва вялікае зацікаўленне выклікаюць тут экспанаты, прысвечаныя 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Яны сведчаць аб маналітным адзінстве і дружбе савецкіх народаў, аб перамозе ленінскай нацыянальнай палітыкі ў савецкай краіне.

Падарожнічаючы па залах музея, здаецца, што ты паўтараеш шлях, пройдзены беларускім народам, лепш пазнаеш цяжкое, бязрадаснае мінулае і шчаслівае, акрыляючае сучаснае працоўных Савецкай Беларусі.

**А. Літвін**

Фота **Э. Трыгубовіча**



*Косці мамаnта са стаянак Верхняга Падняпроўя, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі.*

## ШТО НОВАГА?

### У КІТАІ

Карэспандэнты зарубежнага друку, акрэдытаваныя ў Пекіне, перадалі ў апошні час серыю матэрыялаў аб ролі Мао Цзэ-дуна ў падзеях, якія адбываюцца ў Кітаі. Пераважная большасць журналістаў выказвае ўпэўненасць у тым, што Мао па сённяшні дзень аднаасобна вызначае як палітычны курс краіны, так і састаў вышэйшага кітайскага кіраўніцтва. Нават самыя ўплывовыя дзеячы з яго акружэння не могуць адкрыта проціпаставіць сябе гэтаму чалавеку.

Культ Мао дасягнуў апагея і набывае часта гратэскавыя формы. Кітайскія газеты часта пішуць аб тым, што адна толькі адданасць ідэям маасізму дае магчымасць вырашаць розныя гаспадарчыя задачы і выходзіць з самых неверагодных цяжкасцей, аж да тушэння пажараў або лячэння ад вельмі цяжкіх хвароб. Ухіленне ж ад удзелу ў агульным хоры ўслаўлення Мао выклікае падазрэнне ў нелаяльнасці і пагражае сур'ёзнымі вынікамі.

На думку замежных назіральнікаў, новая хваля рэпрэсій, якая ўзнялася ў краіне, яшчэ не захліснула ўсіх, хто мог бы аказацца яе ахвярамі. Зняцце Дэн Сяо-піна ў момант, калі ён, здавалася, вось-вось павінен быў стаць прэм'ер-міністрам, з'явілася сігналам для разгортвання кампаніі, роўнай якой не было з часоў „культурнай рэвалюцыі", — адзначае пекінскі карэспандэнт агенства Франс Прэс. Заходнія карэспандэнты спасылаюцца пры гэтым на артыкулы ў кітайскіх газетах, якія заклікаюць выкрыць прыхільнікаў Дэн Сяо-піна, якія, паводле некаторых даных, займаюць даволі моцныя пазіцыі ў арміі, а таксама ў шэрагу партыйных і дзяржаўных органаў як у цэнтры, так і на месцах.

Характэрна, што цяперашняя чыстка ў канчатковым выніку накіравана супраць тых, хто так або інакш аспрэчвае правамернасць праслаўутай „культурнай рэвалюцыі" і іншых палітычных акцый мааістаў.

Па назіраннях журналістаў, што працуюць у Пекіне, жорсткасць Мао Цзэ-дуна ўзмацняецца па меры таго, як з гадамі ён фізічна старэе і становіцца слабым. Мао ходзіць з цяжкасцю (яго падтрымлівае медсястра), гутарыць паўлежачы ў крэсле, часам гледзячы зусім не ў той бок, дзе сядзіць яго субяседнік. Гэта можна назіраць, у прыватнасці, у кароткіх тэлевізійных рэпартажах аб прыёме замежных гасцей. Да нядаўняга паведамлення аб тым, што Мао не будзе больш сустракацца з замежнымі гасцямі — ён меў у гэтым годзе пяць сустрэч з замежнымі дзеячамі, прычым тры апошнія працягваліся ўсяго па чвэрці гадзіны.

Апошні іншаземец, які гутарыў з ім, — прэм'ер-міністр Пакістана Бхута заявіў на прэс-канферэнцыі ў Пекіне: „За выключэннем драхласці, якая з'яўляецца вынікам яго ўзросту, і моцнай прастуды, ад якой ён пакутуе, яго здароўе, відаць, у парадку".

А вось як апісвае амерыканскі часопіс „Ньюсуік" сустрэчу кітайскага лідэра з прэм'ер-міністрам Новай Зеландыі: „Гаворка Мао стала настолькі нечленараздзельнай, што перакладчыкам цяжка зразумець яго. Перыядычна ім даводзіцца чакаць, пакуль ён напіша, што хацеў сказаць. У апошні час трох яго маладых перакладчыц замяніў ветэран перакладу Цзі Чжан-чу. Але калі Мао сустрэўся з Р. Малдунам, нават Цзі было цяжка зразумець яго. Перакладчыку давялося некалькі разоў нахіляцца да старшыні і перапытваць яго. Было проста немагчыма зразумець, што менавіта той мае на ўвазе. „Ногі не даюць мне спакою", — сказаў ён Малдуну. Потым дадаў: „У свеце вялікія беспарадкі..."

І ўсё ж Мао не дазваляе нікому прымаць рашэнні за яго. Так сцвярджаюць, што ён не змог асабіста прысутнічаць на пасяджэнні Палітбюро ЦК КПК, калі прымалася рашэнне аб зняцці Дэн Сяо-піна, аднак прыслаў сваю запіску, якая вырашыла лёс гэтага дзеяча.

„Калі Мао Цзэ-дун у рэшце рэшт развітаецца з жыццём, — заяўляе лонданская „Файнэшнл таймс", — ён пакіне пасля сябе нешта накшталт фамільнай дынастыі. Яго пляменнік — член правінцыянальнага камітэта КПК, пляменніца — намеснік міністра замежных спраў, дзве дачкі, згодна з чуткамі, замужам за па-экстрэмісцку настроенымі лідэрамі, так званай, „шанхайскай групы" Ван Хун-венем і Яо Вэньюанем. Але прымадонай сярод родных з'яўляецца Цзян Цін, жанчына, з якой ён ажаніўся 36 гадоў назад і якая забяспечыла сабе ўнікальнае месца ў кітайскай палітыцы". Як піша пекінскі карэспандэнт агенцтва Рэйтэр, „той факт, што Цзян Цін мае доступ да старшыні, забяспечвае ёй асаблівае становішча. Яна яўна прыняла самы актыўны ўдзел у зняцці свайго старога ворага Дэн Сяо-піна".

**А. П.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 21.VIII.** 12.00 Pr. Na Dzień Dobry. 16.10 Pr. I prop. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Avante Camerata. 18.10 Zaproszenie do tańca — Tango. 19.20 Dobranonc. 19.30 Monitor. 20.20 Frankenstein i inni — film fab. hiszp. 21.45 Śladami Gauguina — pr. rozr. 22.35 Dziennik. 22.55 Jan Kiepura — godzina wspomnień.

**Niedziela — 22.VIII.** 7.55 Tech. Rol. Zaj. wak. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 W Starym Kinie — Czarny Pirat — film USA. 11.45 Dziennik. 12.05 Piórkiem i węglem. 12.30 Koncert skrzypc. E-dur. J. S. Bacha. 13.00 Dla dzieci. 13.40 Klub Sześciu Kont. 14.30 Wodewil Warszawski. 16.05 Rodzina Dziurnych — z cyklu „Wizyty". 16.15 Los. Duż. Lot. 16.30 Tele-Echo. 17.30 Sport. 19.15 Wieczor. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Eleonora — odc. VI (ostatni) filmu ser. 21.35 Spotkanie z gwiazdą — Jean Ferrat. 22.50 Sport.

**Poniedziałek — 23.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Iskry. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo Stadionu. 18.05 Gorące serca — odc. II filmu ser. 19.10 Wyst. Ambasadora Rumunii. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr — Witold Gombrewicz „Iwona — księżniczka Burgunda". 22.00 Pr. publ. 22.20 Polihymnia na wakacjach. 22.55 Dziennik.

**Wtorek — 24.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Eleonora — film ser. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lekt. Pegaza. 17.15 Fakty, op., hip. 17.50 Na końcu języka — rep. 18.15 Studio Młodych. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Granice mił.ości — film fab. węg. 21.35 Świat i Polska. 22.20 Wieczorny gość — Piotr Fronczewski. 22.45 Dziennik.

**Środa — 25.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Granice miłości — film fab. węg. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Los. Małego Lot. 17.55 Odniesienia. 18.25 Godzina Eryka Lipińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przesłuchanie — film fab. wł. 21.55 Sport. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 26.VIII.** 12.00 Pr. na Dzień Dobry. 12.30 Przesłuchanie — film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.15 Poligon. 18.40 Pr. publ. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Podróże detektywa — film ser. 21.10 Pegaz. 21.55 Operowe qui pro que.

**Piątek — 27.VIII.** 12.00 Pr. na Dzien Dobry. 12.30 Tydzień pełen wrażeń — film fab. CSRS. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Zapraszamy do smoczej jamy. 17.35 Liban — rep. 18.20 Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień płytowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Festiwal piosenki w Sopocie — Dzień płytowy. 21.20 Film fab. 23.05 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 20.VIII** — 8.05 Fab. film ser. 1 odcinek. 12.05 Pr. dnia. 14.55 Film dal dzieci. 16.50 Koncert życzeń. 17.55 Fab. film ser. 2 odcinek. 19.30 Pr. rozr. 20.25 Filmy anim. dla dor. Po zakończ. wieczór starych romansów.

**Sobota 21.VIII** — 7.30 Filmy anim. 8.00 Film ser 9.05 Dla dzieci. 9.15 Białoruś literacka. 11.35 Przegląd międzynar. 12.00 Film fab. 13.35 Koncert. 16.15 Nie do wiary. 17.15 Cyrk. 18.05 Spektakl teatr. 19.00 Dziennik. 19.30 c.d. spektaklu. 20.45 Tenis. ZSRR—Węgry.

**Niedziela 22.VIII** — 9.00 Spektakl TV. 11.10 Dla dzieci. 12.10 Film fab. 14.15 Koncert. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.30 P. nożna. Dynamo (Tbilisi)—Ararat. 18.15 Klub film. 19.30 Balet. Po zakończ. sport.

## КІНО

**Białowieża** Syndykat zbrodni — USA 24—25. Hazardziści — pol. 26—27. Noc amerykańska — fr. 28—29.

**Czeremcha** Grzeszna natura — wł. 24—25. Zaklęte rewiry — pol. 28—29.

**Czyże** Szary okrutnik — radz. Zew krwi — ang. 25—29.

**Dubicze Cerkiewne** Dzieci lwicy z buszu — pol. Nie ma róży bez ognia — pol. 25—29.

**Gródek** Syndykat zbrodni — USA 28—29.

**Kleszczele** Bułeczka — pol. 24—25. Z własnej nieprzymuszonej woli — rum. 26—27. Dulscy — pol. 28—29.

**Michałowo** Pamiętne lato — radz. 24—25. Mrożony papermit — hiszp. 26—27. Junga z floty północnej — radz. 28—29.

**Mielnik** Los generała — pol. Mazepa — radz. 28—29.

**Narewka** Przygody małego Bimbo — rum. Wążżżż... USA 25—29.

**Nurzec** Prawo gwałtu — USA 24—25. Podróż — wł. 26—27. Czy pasujemy do siebie kochanie — czes. 28—29.

**Orla** Dziewczyna — jug. Raj na ziemi — pol. 25—29.

**Rajsk** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. Kes — ang. 25—29.

B.Z.Graf. Zam. F-4



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ*



*Летам над ракой Нараўкай.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Моладзь і клуб

Праца клуба — гэта перш за ўсё праца ў ім моладзі. У клубе „Рух“ у Луцэ (гміна Нараўка) добра працуюць Ян Стоцкі, чыгуначнік, Генрык Дабжынскі, па прафесіі трактарыст, Аліна Лукша (гаспадыня клуба) і іншыя.

Лучанская моладзь рамантуе свой цэнтр культуры часцей за ўсё ўласнымі сіламі. Колькі ўжо разоў абклейвала сцены шпалерамі ды малявала вокны фарбай.

У клуб прыходзіць моладзь, дарослыя ды пажылыя людзі. Тут можна пачытаць газеты і часопісы, паслухаць радыё, паглядзець перадачу па тэлебачанню, пагуляць у шахматы ды ў шашкі або іншыя настольныя ігры, выпіць каву. Ахвотна прыходзіць у клуб у Луцэ моладзь з суседніх наднарваўскіх вёсак.

Дзеці ідуць у клуб паслухаць казкі або рысаваць. Тут бяруць сабе кніжкі ў бібліятэчным пункце, у якім багата дзіцячай мастацкай літаратуры

У клубе рыхтаваліся да конкурсу „Беларуская песня — 76“ мясцовыя жанчыны: Марыя Стоцкая, Люба Салавей, Яўгенія Смольская, Валянціна Новік, Кацярына Бірыцкая, Надзя Салавей і Леакадзія Карольчук.

Зараз па ініцыятыве рады клуба рыхтуецца выстаўка ўсялякіх прадметаў, выкананых народнымі творцамі: разьбы па дрэву (зубры, алені, птушкі) Яўгенія Жукоўскага, гліняных збаноў, верцяхаў, падставак пад вазоны керамікаў Лявона і Аляксандра Анцуткаў, пляцёнак з карэнняў (між іншым, дэкарацыйных місак) Трахіма Лукшы. Усе гэтыя народныя творцы з'яўляюцца мясцовымі жыхарамі. Усе з адной вёскі.

(ця)

## АД РОДНЫХ НІЎ

**ДЗЕ ВЫ?**

*На лугах зялёных,*
*Калісьці бывала,*
*Кветак было многа,*
*Толькі сена мала.*
*Дзе яны прапалі —*
*Самасейкі-кветкі,*
*Што так украшалі*
*Нашыя палеткі?*
*Дзе старыя ліпы,*
*Рабіна, бярозкі?*
*Ад ветру хранілі*
*Стрэхі нашай вёскі.*
*Лес быў вакруг поля,*
*Сосны векавыя.*
*Куды павязлі іх*
*Каніска стальныя?*
*Куды дзелісь межы,*
*Барозны, палоскі?*
*Вёрстамі цягнулісь*
*Ад нашае вёскі.*
*Дзе вас пахавалі,*
*Серпікі гарбаты?*
*Вас цяпер не знойдзеш*
*Пад страхою хаты.*
*А дзе гразь, балоты,*
*Купы тарфяныя?*
*Што зрабілі з вамі*
*Волаты стальныя?*
*Што з вамі зрабілі,*
*Дзе маглі падзеці,*
*Што цяпер аж люба*
*Прайсці, паглядзеці.*

**Аркадзь Леўшук,**
Ціванюкі




## І дзе тут праўда

З праўдай, бачыце, справа цяжкая. Але заўсёды з некалькіх магчымасцей можна выбраць бліжэйшую або далейшую ёй. Горш, калі рэч не ў прыблізнасці, а ў дакладнасці. Вось хаця б узяць зноў гэтыя няшчасныя аўтобусы. Што за бесталкоўшчына, уявіць цяжка. Ну, гляньце самі. Усім вядома, што ад 30 мая бягучага года, зрэшты, як штогод, абавязвае новы план курсавання як цягнікоў, так і аўтобусаў. Не ведаю як на другіх, але на шляху Бельск—Нараў зноў усё пераблыталася. Якім планам курсавання даць веры, хто яго ведае. Маю на думцы бельскі вузел, ёсць іх тут два. Адзін — вялікі, дзе выпісаныя ўсе аўтобусы і гадзіны ад'езду ды прыезду з Бельска і ў Бельск, і другі — гэта тыя, якія вісяць на паасобных стаянках.

Нас цікавіць аднак чацвёртая стаянка, адкуль адпраўляюцца аўтобусы ў напрамку Нарвы. Вось прыходзіце туды і ўглядаецеся на гадзіны. Ага! Вельмі добра! Якраз а пятай вечара ёсць аўтобус, ды не толькі ў Нараў, але і далей, аж у Беласток. Дасканала. Не маючы аднак нічога да работы, бо час яшчэ ёсць, ідзеце ў гэты гараж з білетнымі касамі. Дзеля ўпэўненасці глядзіце яшчэ раз, але ўжо на план, што вісіць ў гэтай „зале чакання“. Што за хвароба? Такога аўтобуса зусім няма. Вы да акенца А трасца! Закрытае! Адзін дзень адкрытае ад пятай раніцы да шостай вечара, а потым найменш месяц — ад сёмай да другой. Будзь такі хітры, вазьмі і дапытайся. Значыць, няма! Так, няма і ўжо даўно. Яшчэ ў мінулым годзе перастаў хадзіць той аўтобус, што праз Нараў у Беласток. І не толькі той, што вечарам. Раніцай а 7.55 таксама быў і таксама не ходзіць, як вышэй адзначаны. А на плане гэтага не памецілі. Там далей ён упісаны. І вазьмі тут, дабіся толку. Тут так, на тым плане, што ў зале — інакш, а ў кніжным выданні для Беластоцкага, Сувальскага і Ломжынскага ваяводстваў яшчэ інакш. Там яшчэ адзін аўтобус дабавілі. Можа не дабавілі, а ўпісалі тое, чаго няма. Менавіта пакінулі той аўтобус, што з Нарвы а 19.10 выязджаў. Вось і павер друкаванаму, то ў Бельск пехатой будзеш ісці. А кніжка ж новая на гэты год. І як гэта ўсё ўкладалі? Тыя планы, што ў Бельску на стаянках вісяць, відаць, зусім не былі зменены, а проста дапісалі тое, што паявілася, і ўсё. А тое, што непатрэбнае? Не будзе аўтобуса, то і так не паедуць. А што там чужым часам пераймацца! Хай цешацца, што аж столькі аўтобусаў ёсць, зразумела, на дошчачках толькі, бо памінаючы гэтую хлусню, то і з астатніх палавіна не ездзіць. Ну, а што з кніжным выданнем? Лепш бы там старонкі забылі палічыць, то было б больш зразумелым, але што ў курсаванні хлусні напхалі — гэта ўжо ледзь не скандал.

**Бізун**

БЕЛАРУСЫ Ў МАНРЭАЛІ

## Уклад у алімпійскую скарбонку СССР

У агульнакамандны поспех алімпійцаў Савецкага Саюза найбольшы ўклад унеслі спартсмены наступных фізкультурных арганізацый:

РСФСР — 233,03 ачка (103 удзельнікі),

Украіны — 152,78 ачка (110 удзельнікаў),

Масквы — 128,72 ачка (128 удзельнікаў),

Ленінград — 97,93 ачка (60 удзельнікаў),

Беларусі — 70,42 ачка (25 удзельнікаў).

А вось па якасных паказчыках на першым месцы ідуць спартсмены Беларусі, у якіх у сярэднім на аднаго ўдзельніка прыпадае 2,81 ачка. Затым ідуць алімпійцы РСФСР — 2,32 ачка, Ленінграда — 1,63, Украіны — 1,39 і Масквы — 1,00.

На рахунку беларускіх алімпійцаў сем залатых, пяць сярэбраных і пяць бронзавых медаляў. Вось імёны чэмпіёнаў: Алена Бялова (фехтаванне), Вольга Корбут (гімнастыка), Уладзімір Камінскі (веласпорт), Аляксандр Газаў (кулявая стральба), Валерый Шарый (цяжкая атлетыка), Віктар Сідзяк (фехтаванне), Уладзімір Раманоўскі (веславанне). Сярэбраныя медалі атрымалі Сяргей Каплякоў (плаванне), Вольга Корбут (гімнастыка), Аляксандр Кядзяраў (кулявая стральба), Уладзімір Раманоўскі (веславанне), Аляксандр Раманькоў (фехтаванне), бронзавыя — Алена Бялова (фехтаванне), Віктар Сідзяк (фехтаванне), Аляксандр Касянкоў (скачкі ў ваду), Уладзімір Алейнік (скачкі ў ваду) і Яўген Гаўрыленка (лёгкая атлетыка).

*Наш каляндар*

## Макар Паслядовіч

Ужо паўстагоддзя яго пяро неадступна спадарожнічае жыццю ў Савецкай Беларусі.

У літаратуру М. Паслядовіч прыйшоў проста з народных глыбінь. Нарадзіўся ён 21 жніўня 1906 г. у сям'і рабочага-чыгуначніка, што жыла ў вёсцы Караваева на Міншчыне. Дзевятнаццацігадовым юнаком ён заканчвае сямігодку, потым падаецца на падрыхтовачныя курсы да паступлення ў вышэйшую школу. У той жа час М. Паслядовіч здабывае папулярнасць як вельмі актыўны і ўдумлівы сялянскі карэспандэнт газеты „Беларуская вёска“. У 1926 г. яго запрашаюць на журналісцкую працу ў рэдакцыю гэтай газеты. Як спецыяльны карэспандэнт ён аб'язджае ўсе самыя адлеглыя куткі Беларусі, наведвае вялікія будовы першай пяцігодкі ў іншых рэспубліках СССР, між іншым, Харкаўскага і Сталінградскага трактарных заводаў, пабываў у Заходняй Сібіры і на далёкім Усходзе. Вынесеныя ўражанні ляглі ў аснову яго шматлікіх рэпартажаў, нарысаў і артыкулаў аб сацыялістычным будаўніцтве і яго людзях, што рэгулярна друкаваліся ў шэрагу беларускіх газет даваеннага часу. Адначасова М. Паслядовіч спрабуе свае сілы ў мастацкай прозе. У 1927 г. у мастацка-літаратурным часопісе „Чырвоны сейбіт“ паяўляецца яго першае апавяданне „Пад старою бярозаю“. Дэбют быў паспяховым, і праз тры гады выходзяць два зборнікі яго апавяданняў „Зруйнаваныя межы“ і „Людзі вясны“. Ужо нават загалоўкі іх сведчылі, што большасць змешчаных у іх твораў прысвечана вялікім сацыялістычным пераўтварэнням, якія ў канцы дваццатых гадоў перажывалі беларускія вёска і горад. Неўзабаве М. Паслядовіч прыступае да стварэння і шырэйшых эпічных палоцен: у 1931 г. выходзіць яго аповесць „Марсель“, а ў 1933 г. — „Хада ў заўтра“. У 1934 г. паяўляецца яго першая п'еса „Гонар“, а потым публікуюцца: аднаактоўкі „Гарачае сэрца“ (1938 г.) і „Шалёная рысь“ (1939 г.). У 1938 г. ён піша аповесць-малюнак з Грамадзянскай вайны „Паўстанне“, прысвечаную гераічнаму змаганню беларускіх партызан супраць войск Пілсудскага, а ў 1940 г. — „Магістральны канал“ аб вялікіх пераўтварэннях у тагачасным жыцці Беларусі.

У Вялікую Айчынную вайну М. Паслядовіч змагаецца ў партызанскім атрадзе, што дзейнічаў у яго родных мясцінах на Міншчыне.

Пасля вайны з-пад яго пяра выходзіць шэраг апавяданняў, аповесцяў, зборнікаў нарысаў; між іншым, у аповесці „Цёплае дыханне“ (1948 г.) ён расказвае аб людзях горада, што адбудоўваюць з руінаў і развіваюць прамысловасць, а ў рамане „Святло над Ліпскам“ (1953 г.) аб паваенным жыцці беларускай вёскі. Каштоўны як дакумент часу яго зборнік нарысаў „Салігорскае дзіва“ (1963 г.), аснову якога складаюць замалёўкі з пабудовы і працы калійных камбінатаў на Палессі.

М. Паслядовіч падарыў шмат твораў і малому чытачу. Займаецца ён таксама і перакладамі, у асноўным класікаў рускай літаратуры А. Пушкіна, М. Гогаля, А. Чэхава, М. Астроўскага.

(іс)



**НАШЫ САМАДЗЕЙНІКІ**

Уладзімір Лукошык з Гарадка на сёлетнім цэнтральным аглядзе беларускіх тэатральных калектываў атрымаў спецыяльную ўзнагароду „Нівы“ за найлепшую акцёрскую ігру. Выступаў ён у інсцэнізацыі „Адвечнай песні“ Янкі Купалы.

Фота. **Я. Цялушэцкага.**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

(Працяг са стар. 1)

# НА ПЕРАЛОМЕ

выгаблеваныя старанным майстрам, цяпер цалкам згнілі і вось-вось рухнуць на гэты неахайны брудны ложак, на стол, завалены шкарлупамі ад яек, бруднымі анучамі і іншым хламам, на лужыны гнілой смярдзючай вады, што стаіць у чарэп'і ды проста на прагніўшай падлозе...

— Вось так і сяджу, — адказвае на маё нямое пытанне Д. Гуменяк. — Не выйшла маё жыццё, не выйшла. Вось ужо мне зараз семдзесят год, а я і не ажаніўся, сваёй сямейкі не завёў. Жыў пры браце. Думаў: так і век свой пры ім скаратаю. Але потым пайшлі паміж намі непаладкі, і я мусіў пакінуць братаў кут; не хацеў яму замінаць, хоць і жывем на адным падворку. Пытаеце, як гаспадару? Неяк абрабляю гэтыя свае сем дзесяцін, аблогам не ляжаць. Вось толькі навальніца выляжыла жытка, і цяпер сам не ведаю, як яго збяру. Гадоўля? А якая там гадоўля! Маю кабылку ды з паўтара дзесяткаў курэй — усяго толькі. Хто яго ведае, мо, як зямлю возьмуць і дадуць пенсію, то і лепш будзе...

Ва ўпраўленні горада і гміны Сямяцічы да нашай дыскусіі над праблемамі абароту зямлёй уключаецца Пётр Тэрашкевіч — кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы.

— Вядома: уся наша сельская гаспадарка перажывае вялікі перალом, якога не было ў ёй ад часоў адмены паншчыны ў 1861 годзе. Цяпер яна пераходзіць ад замкнутай натуральнай гаспадаркі да гаспадарання на прамысловых асновах. Кожны гектар цяпер на ўліку, як самая вялікая каштоўнасць у народнай скарбніцы, бо ён мусіць пракарміць усё большую колькасць чалавек. Што ж, перададзеных дзяржаве гектараў у нас прыбывае. Да канца бягучай пяцігодкі будзе іх у нашым горадзе і гміне каля 2 000. Ці часам не лягуць яны аблогам, пытаецеся? Не! Звыш 500 га паступова пяройме Сельскагаспадарчы тэхнікум у Чартаеве і гарантуе самы высокі, можна сказаць, перадавы ўзровень гаспадаркі на іх. І ніхто ў гэтым не сумняваецца. Рэшту ж, г.зн. каля 1 500 га таксама паступова будзе пераймаць СКР. Ужо цяпер апрацоўвае 237 га. Хутка ўзбройваецца тэхнічна і развівае не толькі вырошчванне збожжа, але паскорана развівае адкормку свіней. Ужо пабудавала дзве простыя драўляныя свінафермы па 400 месц кожная. Абедзве ўжо поўныя свіней, а нават пачалася продаж дзяржаве кормнікаў, нядаўна даставілі на пункт скупкі 80 штук. Да 1980 года СКР хоча давесці стан сваіх свінафермаў да 6 тыс. адкормачных месц, каб магчы дастаўляць дзяржаве не меней 10 тыс. штук кормнікаў у год. Аднача́сова ў 1978-80 г.г. будзе будавацца ферма на 500 штук дойных кароў і адкормачная ферма на 500 штук убойнай ялавічыны (букатаў). Работы па ўзвядзенню гэтых аб'ектаў ужо пачаты. Значыць, перанятыя за пенсіі гектары дадуць не толькі хлеб, але таксама малако і мяса. Ужо на сённяшні дзень у СКР скошана і засіласавана каля 20 га зялёных кармоў, засталося яшчэ 10 га. І так, як бачыце, пачатак зроблены добры. Але ці гэты шлях пераходу з натуральнай на прамысловую сельскую гаспадарку будзе лёгкі? Таксама — не! Цяжкасці перад намі велізарныя, і гэтага мы не скрываем. Уявіце, што гэтыя 1 500 га будзе знаходзіцца ў 600-700 кавалках, часам адлеглых ад сябе па некалькі кіламетраў. Трэба ж будзе іх паволі, на дабравольных асновах, без шкоды для сельскагаспадарчай вытворчасці, вымяняць з індывідуальнымі гаспадарамі, выпрацаваць адпаведную структуру глебы, угнаіць і г.д. Але першыя крокі для вялікага пераломy ў нашай сельскай гаспадарцы ўжо зроблены ўпэўнена і паспяхова...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Механізатары Ян Нічыпарук і Фелікс Байкоўскі з СКР у Сямяцічах у часе жніва за кантролем сваёй машыны.*

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ЦІМАФЕЙ БАНЬКОЎСКІ

Пра селяніна Цімафея Банькоўскага з вёскі Лушчы (гміна Чыжы) мы чулі шмат цёплых слоў ад работнікаў гміннай сельскагаспадарчай службы ў Чыжах. Пастанавілі яго наведаць. Ён гаспадарыць па-сучаснаму, умела, выкарыстоўвае сельскагаспадарчыя машыны ў палявых работах. Мае ўласны трактар і падвесныя сельскагаспадарчыя машыны, ды яшчэ малатарню, букоўнік, касілку, рвачку ільну, бульбакапалку, апырскваč. Гаспадар кажа, што 10 гектараў ворнай зямлі ўжо замала. Перадавы земляроб спецыялізуецца ў вырошчванні бульбы (пераважна „Флісак“), ячменю („Грыф“) і пшаніцы, якой у сярэднім збірае 30 ц/га. Па кантрактацыі збожжавых культур Цімафей Банькоўскі выконвае план у 200%. Прадае 5000 кілаграмаў збожжа, звыш 25 000 кілаграмаў бульбы, звыш 5 000 кілаграмаў мяса. Апрача таго, лушчанскі земляроб збірае кантрактаваны лён з двух гектараў і па гектары канюшыны і травы „костшэвы“. Прадаваць насенне гэтых культур вельмі аплочваецца. Працавіты селянін намераны яшчэ будаваць абору для малочных і мясных кароў. Аднак гадаваць будзе перш за ўсё „шаралесаў“.

Цімафей Банькоўскі з'яўляецца членам ЗСЛ. Раней быў нават старшынёю гэтай арганізацыі, якая налічвае 14 чалавек, пераважна перадавых гаспадароў.

**Я. Цялушэцкі**

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Гаспадыня ў жніве.* *Фота В. Рудчыка.*

Працяг са стар. 1)

# МЫ ХОЧАМ ДАЛЕЙ САМААХВЯРНА ПРАЦАВАЦЬ

Неабходна таксама нам, аўтарам, стварыць магчымасць ездзіць на аўтарскія сустрэчы. Як ужо заўважыў А. Барскі, на працягу мінулых 20 год мы правялі звыш 2 тысяч аўтарскіх сустрэч. Гэта сапраўды аграмадная колькасць! Асабліва калі ўлічыць, што ў іх правядзенні фінансавая дапамога з боку БГКТ была вельмі мізэрная. Гэтыя аўтарскія сустрэчы выклікалі ў людзей вялікае зацікаўленне, і яны былі аднача́сова кальпартажам нашых літаратурных зборнікаў. Гэта, напэўна, нейкая анамалія, бо ў нашай краіне ўсе пісьменнікі кальпартуюць свае творы за пасрэдніцтвам кнігарань „Дому кнігі“. Мы ж самі прадаем свае кніжкі на аўтарскіх сустрэчах, або распаўсюджвае іх ГП БГКТ. І так, мы ўжо вычарпалі ўсе тыражы папярэдніх выданняў, распрадалі іх амаль поўнасцю. А свайго новага зборніка „Дзяцінства прыстань“, які выйшаў на пачатку гэтага года, толькі на працягу сваіх двух выездаў на Беласточчыну я падпісаў 500 экземпляраў, г.зн. адну чацвёртую ўсяго тыражу. На жаль, у апошнія гады БГКТ не мае ні граша ў сваім бюджэце на правядзенне аўтарскіх сустрэч. Аўтары ж не могуць цалкам уласным коштам праводзіць гэтыя мерапрыемствы, патрабуюць нямнога — ўсяго толькі аддачы коштаў падарожжа і кампенсацыі заработнай платы за страчаны дзень на прадпрыемстве, дзе яны працуюць. Таму фінансавыя сродкі на аўтарскія сустрэчы мусяць быць у бюджэце ГП БГКТ.

Хачу тут дадаць, што толькі дзякуючы незвычайнай ахвярнасці Віктара Буры, працаўніка былога гайнаўскага аддзела БГКТ, які двоіцца і троіцца, каб адно здабыць крыху фінансавых сродкаў на аўтарскія сустрэчы, ў апошнія гады яны і адбываюцца ў асноўным на Гайнаўшчыне, а ў іншых мясцовасцях мы іх амаль зусім не праводзім. Пры нагодзе, ад імя нашай творчай арганізацыі хачу выказаць шчырую падзяку Віктару Буры і гайнаўскаму актыву за дапамогу ў правядзенні аўтарскіх сустрэч.

У заканчэнні свайго выступлення хачу выказаць пажаданне, каб кожны год выдаваць сама меней адну кнігу твораў індывідуальнага аўтара і на два гады адзін нумар літаратурнага альманаха „Белавежа“, у якім друкаваліся б творы нашага творчага маладняка, што апрача літаратурнай старонкі ў „Ніве“ не мае дзе змяшчаць свае творы. Гэта, зразумела, заахвоціць нас да больш плённай творчасці. Мы ж не хочам пісаць сабе самім ды музам, але хочам, каб нас чыталі і слухалі, хочам далей самаахвярна працаваць у карысць беларускай нацыянальнай меншасці, у карысць Беласточчыны, у карысць нашай краіны, хочам таксама ўнесці наш скромны ўклад у нашу агульнадзяржаўную культуру.

# Калі ўжо будзе?

ГС у Нараўцы ранняй вясною ў гэтым годзе пабудаваў з гатовых элементаў гандлёвы павільён у Новым Ляўкове (на скрыжаванні дарог, насупраць злеўні малака). У ім мелі прадаваць прадуктовыя тавары першай патрэбнасці. Але не прадаюцца. У павільёне няма шыбаў, і з-за іх уся затрымка. Так прынамсі інфармаваў нас прадстаўнік праўлення ГС.

Жыхарам Ляўкова і не толькі ім цікава ведаць, калі ён ужо будзе адкрыты. (ця)

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА VIII

**Пейзажная і патрыятычная лірыка.** Прыродаапісальны верш „Асенняя пара“ даволі тыповы для паэтыкі Паўловіча. Верш гэты, як і большасць папярэдніх пейзажных твораў, мае фатаграфічны характар. Восеньскі пейзаж не знаходзіць у адчуваннях аўтара якой-колечы прывабнасці. Паэт асуджае тут усё: восеньскую каларыстыку, свет восеньскіх гукаў і ўрэшце восеньскую атмасферу. Верш канчаецца вымоўнай страфой.

*Сівая павуціна*
*Павісла, як шмаццё,*
*Бо восені карціна —*
*Нуда, а не жыццё.*

Чытаючы верш, здаецца нам, што ўбоства восеньскага пейзажу ўдзялілася і вобразнай сістэме твора. Няма ў ёй ні цікавых параўнанняў, ні арыгінальнай метафорыкі.

У вершы „Асенняя пара“ няма нічога апрача таго, што сказана ў паасобных радках. Твор гэты зусім пусты, калі гаварыць аб падтэксце.

Намнога цікавейшы і глыбейшы верш „Трывога“ — апошні з прыродаапісальнага цыкла. Твор прысвечаны незвычайнаму для паэзіі Паўловіча марскому пейзажу. У вершы паэт як бы адштурхоўваецца ад свайго ўласнага метаду ў паказе прыроды. У большасці твораў Паўловіч прымяняў фатаграфічны спосаб ілюстрацыі прыроды. Зразумела, што пры такім спосабе найважнейшае — дэталь, факт, канкрэтнае здарэнне. Калі ў гэтых вершах выступаў рэфлексійны момант, дык паяўляўся ён амаль заўсёды ў канцы тэкстаў.

У „Трывозе“ аўтар па сутнасці адступіў ад традыцыйнага метаду. Факт, аб'ектыўная карціна тут на кожным кроку чаргуюцца з рэфлексіяй, адчуваннем, рэакцыяй аўтара. Такім чынам, аб'ектыўнае і суб'ектыўнае зышлося тут у адну нераздзельную цэласць.

У вершы „Трывога“ знаходзім апісанне мора. Вось гэты момант і звязвае твор з прыродаапісальнай лірыкай. Аднак мора, хаця прысутнае ва ўсім вершы, не з'яўляецца галоўным „героем“ у творы. Пісьменнік многа разоў пакідае матыў марской стыхіі і аддаецца роздуму, які мае філасофскі характар. Для пісьменніка цішыня ў прыродзе асацыіруецца з „шчаслівай хвіляй, прасторам і свабодай“. Аднак, на думку паэта, стан цішыні, згоды і гармоніі ёсць станам кароткатрывалым і ўяўным. У цішыні бачыць аўтар затоеную „здраду і ману“. Характэрныя дзве апошнія страфы верша:

*Што ўсё ў прыродзе не вечна, не трывала —*
*З мінутай змяняецца ўсё —*
*Адно толькі гора, калі напаткала,*
*Дык думкамі струець жыццё.*
*Панурыя, злыя, гнятуць яны сэрца.*
*Мінута — зноў здрадны спакой...*
*І так у трывозе век цэлы да смерці*
*Змагайся з людзьмі і з сабой.*

І так, жыццёвая філасофія пісьменніка высвятляецца да рэшты. Можна яе звесці да наступнага: спакой і згода — гэта ўяўныя або сапраўдныя, але кароткатрывалыя станы ў нашым жыцці. Вечная ў чалавечым побыце трывога і барацьба. Характэрнай рысай чалавека з'яўляецца канфлікт з іншымі людзьмі і з самім сабой.

Да такіх не надта аптымістычных вывадаў даходзіць паэт, назіраючы за прыродай і пераносячы характэрныя яе рысы на чалавека.

На падставе ўсіх прадстаўленых пейзажных вершаў Паўловіча трэба сказаць, што ў сэнсе думкі і формы нельга гэтых твораў звязваць з вялікімі дасягненнямі беларускай літаратуры. З другога, аднак, боку нельга не заўважыць, што Паўловіч не быў абыякавы да прыроды, рэагаваў на яе праявы і больш або менш удачна ілюстраваў у сваёй паэзіі.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ДАВЯРАЙ І ПРАВЯРАЙ!

СКР у Нараўцы складаецца з трох вялікіх сельскагаспадарчых гурткоў — у Ляўкове, Міклашэве і Семяноўцы. Гэты апошні абслугоўвае тры салэцтвы, у склад якіх уваходзяць наступныя вёскі: Лука, Слабодка, Семяноўка, Тарнопаль, Семенякоўшчына, Баравыя, Баб'я Гара, Пасекі, Плянты і Альхоўка. Семяноўскі сельгасгурток мае 17 трактараў, 6 касілак, 5 снопавязалак, 5 малацільных агрэгатаў, 7 бульбакапалак, 3 млыны-сьрутоўнікі і шмат іншых сельскагаспадарчых машын.

Дыспазітарам гуртка ў Семяноўцы з'яўляецца Аляксандр Шыманюк. Патрабавальны ён, не зносіць фальшу і несумленнасці. Пад яго кіраўніцтвам тэхнічны персанал, а ў асноўным гэта трактарысты, вызначаныя абавязкі выконваюць добра. Там амаль не здараецца, што трактарыст, зманены гарэлкаю або іншымі абяцанкамі, выканае работу не згодна з выстаўленай картай дыспазітара. Там усе знаюць, што за такі ўчынак будзе трактарыст пакараны фінансава, а зманшчыку-гаспадару даная паслуга будзе выканана апошняму.

Надыйшла жніўная пара. Да гэтай вельмі важнай кампаніі сельгасгурток добра падрыхтаваўся. Рамонтнік Мікалай Сухадола адрамантаваў, наладзіў усе машыны, неабходныя да жніва. Бяда толькі з тым, што шмат жыта вылегла, і прыдзецца часткова ўзяцца за косы.

Аляксандр Шыманюк сваім матавеласіпедам часта выязджае ў поле, туды, дзе працуюць трактарысты. Ён сочыць за іх працай. — Я прытрымоўваюся той праўды: давярай і правярай, — сказаў нам таварыш Шыманюк. І тут, між іншым, заключаецца таямніца поспеху ў адказнай дзейнасці дыспазітара, аб якім можна пачуць добрыя словы і ў дырэкцыі СКР, і ў гміне ў Нараўцы.

Дыспазітар Шыманюк імкнецца таксама да таго, каб трактарысты атрымоўвалі зарплату толькі ў суботу ў пазнейшых гадзінах. Бо калі каму і здарыцца выпіць чарку пасля палучкі, дык ужо ў нядзелю, у дзень адпачынку.

Калі дыспазітар заўважыць, што ў час жніва трактарыст „хваціў" лішняе, дык адразу ссаджвае яго з трактара.

**М. Сваяк**

## З рэпарцёрскіх запісак

Гэты драўляны домік знаходзіцца ў Беластоку, крыху здалёк ад Першамайскай алеі, у тым яе пункце, дзе яна ўліваецца ў скрыжаванне вуліц ля касцёла святога Роха.

У час гітлераўскай акупацыі тут знаходзілася яўрэйскае гета. Калі ў ім успыхнула ўзброенае паўстанне яўрэяў, фашысты зраўнялі з зямлёй цэлы квартал горада. Нейкім цудам гэты драўляны домік уцалеў.

Цяпер яго акружаюць шматпавярховыя жылыя гмахі. Маленькі домік, размаляваны ў яркі зялёны колер, з'яўляецца тут жывым помнікам трагічных дзён Беластока. Шмат гадоў развясельваў яго бестурботны гоман дзяцей. Тут памяшчаўся невялічкі дзіцячы садзік. Дзецям, аднак, было цесна і нязручна, не хапала прасторы і зяляніны для гульняў. Дык улады пабудавалі непадалёк новы будынак для патрэб дзіцячага сада, а ў старым драўляным доміку стала ціха і спакойна.

**Тут варта адзначыць, што ў гэтай пяцігодцы прадбачваецца пабудаваць у Беластоку 24 будынкі для патрэб дзіцячых садоў.** Такім чынам рэалізуецца праграма, каб усе дзеці дашкольнага ўзросту праходзілі першапачатковую адукацыю ў дзіцячых садах.

Усе гэтыя дзіцячыя сады будуць, вядома, намнога лепшыя для адпачынку і гульняў малышоў ад зялёнага доміка, які па-сірочаму да сённяшняга дня стаіць у невялічкім агародчыку сярод бетонна-цагляных жылых гмахаў.

Калі б гэта залежала ад мяне, я ахвотна наладзіў бы тут філіял акруговага гістарычнага музея. (вр)



## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі:

Древнерусские княжества X-XIII в.в., 1975, стар. 304, цана 15 зл. 20 гр.

Зборнік артыкулаў на рускай мове па гісторыі паасобных найбольш вядомых і важных зямель і княстваў Кіеўскай Русі. Для нашага чытача асаблівую вартасць прадстаўляе артыкул Л.В. Аляксеева „Полацкая зямля", у якім паказаны бурлівыя падзеі паўночна-ўсходняй часткі беларускіх зямель у X-XIII ст.ст.

**Шматаў В. Ф.,** Беларуская графіка 1917-1941, 1975, стар. 120, цана 8 зл.

Кніга паказвае асноўныя этапы і шляхі развіцця станковай графікі даваеннай Савецкай Беларусі.

Гравюры Францыска Скарыны, 1972, цана 35 зл. 90 гр.

Дасканалае з пункту гледжання навуковай вартасці, а таксама тэхнікі выданне аднаго з найбольшых скарбаў беларускага выдавецкага мастацтва. Уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз належыць Л. Баразне.

**Артамонов М. И.,** История хазар, 1962, стар. 524, цана 30 зл.

Гэтая аб'ёмістая манаграфія на рускай мове адрасуецца перш за ўсё да гісторыкаў і любіцеляў гісторыі. У ёй атрымала поўнае высвятленне паўстанне, развіццё і трагічны заняпад Хазарыі — дзяржавы стэповых народаў, якая існавала ў перыяд ад VII да X стагоддзяў у міжрэччы Дона і Волгі і адыграла значную ролю ў гісторыі ўсходніх славян, як адна з бліжэйшых суседак Кіеўскай Русі.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
„Dom Książki". 15-089. Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## Ці ведаеце, што...

...з 70 год свайго жыцця чалавек у сярэднім затрачвае 42 гады на сон, размову і харчаванне.

...жыхары нашай дзяржавы расходуюць на папяросы ў тры разы больш грошай, чымсьці на кніжкі, газеты і часопісы.

...найбольш газет і часопісаў чытаюць жыхары сталічнай Варшавы і вялікіх гарадоў, якія знаходзяцца на Шлёнску, найменш — з сельскагаспадарчых рэгіёнаў. (ця)

## ФАЛЬКЛОР

### КАЛЯДНАЯ




Коляд, коляд, колядныця,
добра з мэдом поляныця,
а бэз мэду ны така —
дай, дядьку, пятака!
А бэз мэду ны така —
дай, дядьку, пятака!
Як ны дасі пятака,
мы — корову за рога,
а кобылку — за чупрынку,
повэду еі ў долынку,
а кобылку — за чупрынку,
повэду еі ў долынку.
А ў долынці на точок,
дай, дядьку, пятачок!

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

Пад такім загалоўкам мы апублікавалі заметку нашага карэспандэнта ў першым нумары „Нівы" ад 4 студзеня 1976 г. Аўтар яе пісаў: „Два гады таму назад на граніцы дзвюх вёсак Бандары і Рыбакі распачалася будова рамізы са святліцай. Як адна сям'я пачалі жыхары вёсак капаць фундаменты і заліваць бетон. Працавалі людзі салідна і потым. Адным словам, колькі людзі самі збудавалі, столькі і ёсць. Зляпілі рамізу да ўзроўню бэлек і ўсё".

У справе распачатай і потым закінутай і парослай пустазеллем рамізы даў адказ начальнік гміны ў Шымках Мікалай Лаўрэшук. Яго адказ на нашу крытыку мы змясцілі ў 12 нумары „Нівы" ад 21 сакавіка 1976 г. У сваім адказе тав. начальнік спасылаецца на тое, што ГС у Міхалове не даставіў на час адпаведнай колькасці патрэбных будаўнічых матэрыялаў і з-за гэтага выйшла затрымка. Але паколькі ўжо яны ёсць, дык неўзабаве будуць прывезены на месца пабудовы. Начальнік Шымкаўскай гміны закончыў свой адказ аптымістычна:

## Пачалі і што далей?

„Uważam, że wiosną przy wydatnej pomocy Rejonowej Komendy Straży Pożarnej w Białymstoku oraz pomocy miejscowej ludności ruszą prace wykończeniowe obydwu remiz strażackich".
(Другая такая самая раміза будуецца ў вёсцы Бахуры ў гэтай жа гміне — допіс І. Н.).

Заглянулі мы ў Рыбакі пры нагодзе сёлетняга традыцыйнага ўжо тут беларускага фэстына. Паглядзелі, што далей з будовай вельмі патрэбнай усім рамізы. Дык бачым — нічога не змянілася. Ніхто нат сцяжынкі да яе не пратаптаў. Не варушыцца пабудова. Толькі буйнае пустазелле, тое варушыць — пагойдвае „папутны" вецярок...

А трэба ведаць, што жыхары Бандароў, Гарбароў, Рыбакоў і Рудні шмат чаго пабудавалі ў сябе. Хаця б жвіроўкі ад Рыбакоў да Бандароў, пасля ад Рыбакоў да Болтрыкаў і затым да Рудні. Грамадскім чынам разбудавалі школьны будынак і пабудавалі жылы будынак для настаўнікаў ў Рыбаках, пасля яшчэ гандлёвы дом на 420 квадратных метраў агульнай плошчы, у якім кожны селянін можа купіць усе тавары першай патрэбы. Толькі пры пабудове рамізы пажарнай каманды спыніліся на доўга... і ні з месца.

Таму неабходна, каб гмінныя ўлады і хто яшчэ падтрымалі ініцыятыву і грамадскую працу насельніцтва. Тады на калектыўную работу выйдуць людзі амаль з кожнай хаты...

**Іван Непаседа**

P.S. Праязджалі мы дарогаю ля будынка рамізы ў Рыбаках дзесяць дзён пазней. Убачылі ў ім толькі што замацаваныя новыя дзверы. Значыць, праца пры пабудове рамізы рушыла! Толькі ці на тое, каб замацаваць дзверы трэба было аж дзесяць дзён. Вось дык тэмп...

**І. Н.**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

## ПАКУЛЬ НАРОДЗІЦЦА ЧАЛАВЕК

Бытавалі, а нават бытуюць і цяпер перакананні, што цяжарная жанчына ўсё можа. Яна быццам бы ўтрымоўвае кантакт са звышнатуральнымі сіламі, і ўсе яе жаданні неабходна споўняцца. Менавіта гэтых жаданняў і баяліся, бо не заўсёды яны былі добразычлівымі. Таму цяжарнай (нават цяпер) ніколі і нічога не адмаўляюць. Спаўняюць яе кожную просьбу. Перакананы, што адмова абавязкова раўняецца нейкаму няшчасцю. А найлепш тым, да каго цяжарная жанчына вогуле не заходзіць. Ёсць таксама забабоны шкодніцкія, якія накіроўваюцца ў нейкай крыўдзе ці нянавісці да жанчыны з той мэтай, каб кінуць на галаву будучага дзіцяці нейкую хваробу і наказаць, такім чынам, на ўсё жыццё бацькоў. Ёсць перакананне, што калі ўдарыць абухом сякеры па парозе ў той час, калі толькі што пераступіла яго цяжарная жанчына, трапляючы ў яе цень, то дзіця народзіцца дурное.

Жанчына ў сваю чаргу павінна бараніцца ад гэтых нядобразычлівых забабонаў ды магічных дзеянняў. Яшчэ па сённяшні дзень бытуе ў народзе шмат такіх перакананняў. Цяжарная жанчына, напрыклад, павінна спаць у такім месцы, куды не даходзіць месячнае святло. Калі будзе яно падаць на спячую, то дзіця абавязкова будзе лунатыкам. Згодна з перакананнямі, спатыкаюцца такія людзі, якія маюць дрэнныя вочы. І менавіта заўрочанне вельмі шкодзіць будучаму дзіцяці. Будзе яно заўсёды скардзіцца на боль жывата. Каб пазбегчы гэтага, жанчына павінна хадзіць у вывернутай сарочцы. Тады ўсё ад яе і ад дзіцяці будзе адварочвацца.

Ёсць такая прыказка: „Якія маткі, такія дзіцяткі". Праўдападобна, дзіця, калі прыйдзе на свет, мае ўжо акрэсленыя характар і схільнасці. А ўсё гэта залежыць ад маці. Ходзячы цяжарнай, не павінна яна красці, бо дзіця будзе злодзеем, нельга сварыцца, бо дзіця будзе задзёрай. Адным словам, трэба асцерагацца ўсяго таго, што сабе не мілае, таму што ўсё гэта адбіваецца на будучым дзіцяці. Людзі яшчэ па сённяшні дзень перакананы, што жанчыну ў гэтым стане нельга страшыць нажом, бо патомак можа быць або хваравітым, або мець цяжкасці з вымовай. Перапалох меў вялікі ўплыў на жанчыну, а найгорш калі быў ён выкліканы агнём. Павінна яна была аб гэтым ведаць і не хапацца рукамі за цела, а перш за ўсё за галаву. Дзіця тады магло б быць дурным, або мець на твары чырвоныя плямы. Цяжарная жанчына, згодна з перакананнем, не павінна глядзець на дзяцей і людзей брыдкіх, дрэнных ды няпоўнаразумных. Павінна глядзець толькі на прыгожых, ды добрых, дык такім будзе і яе дзіця. Так што, як відаць, яшчэ па сённяшні дзень захаваліся ў народзе перакананні-забабоны адносна цяжарнай жанчыны.

**М. Шаховіч**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## Жніво ў Бабіках

Былую гміну Бабікі ва ўборцы і ўсіх зямельных работах абслугоўвае СКР у Саколцы, які мае свой філіял у Бабіках. Гэты філіял у Бабіках мае 32 трактары з поўным саставам машын. Мае 22 снопавязалкі і 4 камбайны: 2 „Бізоны“ і 2 „Вістулі“. Праўленне СКР прыдзяліла камбайны „Вістуля“ перш за ўсё для прыватных гаспадароў, а таксама для іх 22 снопавязалкі. Апрацаваны план работы. У першую чаргу карыстацца машынамі маюць права збавідоўцы, удовы і прыхварэлыя гаспадары. На полі працуе самаход тэхнічнай дапамогі, а з Саколкі давозяць абеды і халодныя напіткі.

**Віт**

## Тут можна адпачыць

Лета — сонца пражыць, як у Афрыцы. Людзі робяцца сонныя, менш прадукцыйна працуюць, мараць, каб паехаць кудысьці за горад, на раку. Многія едуць на Нараў і там адпачываюць — ловяць рыбу, загараюць, аднак купацца там небяспечна, бо рака вялікая, глыбокая і можа чалавек знайсці там сабе смерць замест адпачынку. А ці не лепш было б паехаць на малую рэчку, дзе паплаваць можна спакойна?

Такой рэчкай можа быць Арлянка, якая плыве за Шчытамі, калі ехаць з Гайнаўкі ў Бельск. Тут толькі трэба павярнуць направа, праехаць 300 метраў — і мы ўжо каля заставы. Вады тут не так многа, каб утапіцца, і плаваць можна. Дзе б не стаў дарослы чалавек, дык заўсёды галава будзе наверсе. Можна сюды прыехаць, пакупацца, адпачыць і вяртацца дадому, але можна і цэлы дзень пабыць, абы толькі ўзяць свой правіянт.

**В. Анапюк**




### НЯЗНАНАЯ МЯСЦІНА

*Пад граніцай каля пушчы*
*Пад Бабі-Гарой каля „Марушкі“ —*
*Знаходзяцца дзве вёсачкі малыя,*
*Завуць іх „Недзвядзі“ і „Баравыя“.*
*Жыве там мала жыхароў,*
*Гадуюць мала там кароў,*
*Бо ў іх там пашы мала —*
*А так Гануля нам сказала.*
*Затое Недзвядзі склеп-кіёск там маюць,*
*Штодня і вечарам там хлопцы ўсе гуляюць*
*Бо сёння кожны грошы мае*
*І ў Недзвядзі кожны спяшае.*
*Будынак-кіёск малы і непрыгожы,*
*Багацця там нямнога:*
*Мука, соль, часам сала,*
*А піва і віна нямала.*
*І не бракуе там малых звяроў,*
*Яны штоноч выходзяць з нораў.*
*Нават і кот не памагае —*
*Цукеркі, пранікі пааб'ядаюць.*
*Затое пан скляповы добру голаў мае —*
*Кліентаў ён, як можа, так сцягае.*
*Хто не па яго, адразу лае*
*І хуценька пра ўсё ён забывае.*
*Коля, скляповы, добра дбае —*
*Часта налева спірцік мае,*
*Аб гэтым каб ніхто не знаў,*
*Што ён вам спірціку прадаў.*
*Калі часу сам не мае,*
*Дачка Наташа заступае.*
*Яна ўжо лепшая хітрушка*
*Выглядае, як ігрушка*
*Яна патрапіць добра зважыць,*
*Патрапіць добра й палічыць*
*І харашэнька хлапцу ў вочкі*
*Падмаргнуць і паглядзець.*
*Калі нядзеля прыдзе або свята,*
*Пад склепам пры сталах мужчын багата.*
*П'юць там піва і віно —*
*Усім ім радасна і весяло.*
*І сядзяць так аж да ночы,*
*Аж пухнуць ім ад віна вочы,*
*Пакуль жанчыны не прыйдуць*
*І іх дамоў не забяруць.*
*Дамоў ідучы з крыкам, з свістам*
*Цягнуць сябе за каўнер —*
*Знаюць жа яны ўжо добра,*
*Што не стукне міліцыянер.*
*Ніхто не знае гэтай вёскі,*
*Што завецца Недзвядзі.*
*Над рэчкай Нарвай то мясціна*
*А зваць цяпер Семеняковшчына.*

**Тутэйшы**

## Карысная культура

Не ўсе гаспадары ведаюць, што рапс гэта вельмі карысная культура: кошт вырошчвання яго невялікі, а збор прыпадае тады, калі ў гаспадарцы многа часу. У некаторых частках Беластоцкага ваяводства не ўсе гаспадары пераканаліся ў тым, што вырошчваць рапс вельмі аплачваецца. У Шудзялаўскай гміне першым гаспадаром, які ўжо другі год сее рапс, стаў ПГР у Крынках. Нагледзеліся і некаторыя гаспадары гэтай жа гміны. Дык сёлета пасеялі і яны. Як на пачатак, спадзяюцца шудзялаўскія гаспадары ўраджаю 16 цэнтнераў з гектара.

**Я. Бандарук**

## Я прачытаў...

Цікавую кніжку я прачытаў. Называецца „Вершалінскі рай“ — аўтар Аляксей Карпюк. Аўтар цікава адлюстраваў жыццё беларусаў пры панскай Польшчы, які па прычыне розных недахопаў — матэрыяльных і духоўных шукалі на розных дарогах радасці і шчасця. Стараліся знайсці гэта і ў рэлігіі. І выявіўся ў той час прарок — Ілья Клімовіч з вёскі Грыбова — у бок ад Беластока.

Аўтар быў жывым сведкам усіх гэтых падзей, бо жыў ён у суседняй вёсцы Страшава, а ў хаце была родная цётка — Хімка, якая пазней стала фанатычнай міраносіцай Ільі-прарока.

Чаму людзі паверылі ў той час у цёмнага мужыка? Усяму вінавата адсталасць, цемра, беларусы пры панскай Польшчы не мелі галоўнага — ведаў. Ілья мог усё гэта выкарыстаць, не абавязкова свядома. Як кажуць, знайшоў дурнейшых ад сябе.

**М. Панфілюк**

## Каб больш не паўтарылася!

Жніво. Усім вядома — рабочы гэта час, гарачы гэта час! Добра яшчэ, калі прыедзе „кулковы“ трактар, ды паможа скасіць жыта. Але і з гэтым бываюць праблемы, бо іх не вельмі многа, а аматараў на іх поўна. Таму і трэба запісвацца „на чаргу“. Хто першы — той лепшы. А ці сапраўды так? Не зусім!

У адной з вядомых мне вёсак (пакуль не падам яе назвы) здарыўся такі выпадак: таму, хто запісаўся на чаргу першы, працу выканалі апошняму. Не трэба смяяцца, хаця гэта і дзіўнае, і сумнае. Ды як жа было трактарысту не пайсці адразу касіць таму, хто яму прынёс паўлітра, ды яшчэ штосьці ў карзінцы? Але мілыя, як жа ён ганарыста касіў, а зубоў у самавязцы награхатаў, то награхатаў!

Таму ў мяне, сябры, да вас просьба: да адных — не бярыце вы хабараў, а да другіх — не давайце вы гаспадары, хабараў!

**Кара-Кум**

## Так было

Толькі прайшоў фронт у 1944 годзе і распачалося арганізаванне народнай улады. Многа смелых і адважных людзей уступала ў органы міліцыі. Ішлі бараніць маладую народную ўладу.

Так зрабіў і Дунец Валодзя з Семяноўкі. У вёсцы засталася жонка Марыя з сынам, а ён запісаўся ў міліцыю ў Бельску. Быў студзень 1945 года. У той час міліцыянерам не прыдзялялі трох пакояў з кухняй — жылі ўсе на пастарунку.

Бельская камендантура накіравала Дунца працаваць на пастарунак у Боцьках. Служба была цяжкая. Спакою не было ні днём, ні ноччу. Па Бельшчыне хадзілі банды.

5 мая 1945 года банда акружыла Боцькі, і ў няроўнай барацьбе загінула 5 міліцыянераў, камендант пастарунка і яго жонка. І так у 44 гады загінуў і Дунец Уладзіслаў. Як цяжка было асірацелай сям'і — і пісаць не буду.

Цяпер удаве 67 год, і атрымлівае яна рэнту па мужу — 1014 зл., але жыве ў нанятай кватэры ў Гайнаўцы. Ніхто ёю не цікавіцца, а сама яна непісьменная і нікуды з нічым не звярталася. Але ад яе імя я хачу гэта зрабіць. Зацікаўцеся ў ЗБоВіД-е гэтай справай!

**Вірскі**

## Розыгрыш аўтамашын

28 ліпеня гэтага года ў Беластоку адбыўся розыгрыш прэмій у выглядзе легкавых аўтамабіляў па спецыяльных ашчадных кніжках. Удзел у розыгрышы прыняло 48.969 укладаў па 9.000 зл. Было прызначана для розыгрышу 49 аўтамабіляў.

І так, беластачане выйгралі аж 30 легкавых аўтамабіляў розных марак, 5 аўтамабіляў выйграна ў Бельску Падляшскім і 3 — у Гайнаўцы.

## Пра краму і пчол у Гаркавічах

У Гаркавічах свайго часу была пачатковая школа, якую ліквідавалі ў рамах арганізавання гмінных школ. Застаўся будынак. Яго займала найперш былая настаўніца, якая жыла тут са сваім мужам-пчалаводам. У пачатку навучальнага года 1975/76 настаўніца перайшла працаваць у вёску Плебанова, што ў Крынкаўскай гміне, куды вымушаны быў перабрацца і яе муж-пчалавод. Школьны будынак застаўся завалены розным пчалярскім ламоццем, якое пчаляр не паклапаціўся забраць з сабой. Яму, мабыць, добра мець такі падручны магазінчык і месца на некалькідзённыя пабыўкі. Проста дача на кошт гміны.

І тут насоўваецца пытанне, ці павінен гэты будынак служыць такім мэтам? Ці можа пчаляр карыстацца дзяржаўнай маёмасцю, як сваёю? Як бы ў Гаркавічах не існавалі патрэбы, на якія можна было б прызначыць гэты даўнейшы школьны будынак, каб служыў агулу грамадства! Такія патрэбы ёсць!

А вось яны. Гэсаўская крама ў Гаркавічах змяшчаецца ў прыватным, даволі цесным памяшканні, дзе прадаўшчыку цяжка раскласці прывезеныя тавары. Падручнага магазінчыка няма. А крама вядзе і скупку, што выклікае яшчэ большую патрэбу на месца.

Існуючая добраахвотная пажарная каманда таксама не мае ўласнага памяшкання на свае пажарныя прылады і складае іх у прыватным будынку, за які трэба плаціць, а да таго не надта яно і прыдатнае пажарнікам. І ўсё гэта адбываецца тады, як былы школьны будынак служыць бясплатна пчалаводу.

Пасля гэтай пчалярска-настаўніцкай сям'і засталася немалая пасека — каля 40 вулляў, а бывае іх і больш ста. Яна знаходзіцца на былым школьным панадворку — пасярэдзіне вёскі, сярод сялянскіх сяліб. Канцэнтрацыя большай колькасці пчол вымагае, каб пасяліць іх у адлеглым месцы. Пчолы не любяць, каб блізка былі іншыя жывыя істоты, а людзі таксама не любяць, каб блізка былі пчолы. Яны кусаюць людзей і жывёлу на суседніх і нават далейшых панадворках, нават куры не маюць ад іх спакою.

Скаргі людзей не знайшлі зразумення ва ўлад, да якіх звярталіся. Прымушаюць людзей гадзіцца з такой сітуацыяй: часта быць пакусаным, часта хадзіць з апухшым тварам, часта бараніць жывёлу, часта кідаць працу і хавацца ў хату. І гэтак увесь сезон, а сезоны такія паўтараюцца ўжо некалькі год. Ці няма выйсця з гэтага? Ёсць! Трэба, каб пасеку пчаляр забраў і перанёс у іншае месца. Ёсць маладыя ляскі на пэгээраўскім палетку, дзе людзі не ходзяць, а пчолы маглі б спакойна працаваць.

Адным словам, неабходна, каб і мясцовыя, і вышэйшыя ўлады заняліся гэтай справай — пільнай справай.

**А. Н.**




**Ян Гайко, Орля.** У сваім пісьме вы закранаеце шмат розных спраў, але мы затрымаліся толькі на адной. Прадаўшчыца паступіла нязгодна з правіламі ў гандлі. Вашы тлумачэнні недастатковы для таго, каб адмяніць пакаранне. Ды й на гэта ўжо запозна — быў на гэта строга акрэслены тэрмін, аб чым вам было вядома. Калі што няясна прадаўшчыцы, дык можа яна звярнуцца за выясненнем да дырэкцыі аддзела прадпрыемства „Прэса-Кніжка-Рух“ у Бельску, якая паінфармуе дакладна. Дырэкцыя прадпрыемства можа выступіць у абарону свайго работніка, калі ён беспадстаўна прыведзены да пакарання. Варта аб гэтым памятаць у будучыні.

**Васіль Керчынскі і іншыя сяляне з вёскі Савін Груд (гміна Гайнаўка).** Вашай справай мы зацікавіліся. Будзем яе разглядаць супольна з работнікамі кампетэнтных устаноў.

**Ян Антосюк, с. Яфіма, Янава (гміна Нараў).** Пастараемся прыехаць да вас, але прыйдзецца вам крыху пачакаць.

**(ця)**

Толькі скнара і ляніва
Не выпісвае „Ніву“

## Скупка яек

Пункт скупкі яек у вёсцы Белкі (гміна Нарва) арганізаваны два гады таму назад. Яго вядзе Васіль Міхальчук у сваёй хаце.

Пункт вядзе ён прыкладна, і людзі вельмі задаволены з таго, што яйкі можна прадаць у сваёй вёсцы.

Сюды прывозяць яйкі і навакольныя вёскі: Сакі, Агароднікі, Гвозна, Патока, Каўпакі, Малынка і Жыўкова.

Сяляне вёскі Белкі стараюцца цяпер павялічыць гадоўлю курэй, бо вядома ж, што за яйкі не малы даход. А найбольш дастаўляе яек на пункт скупкі Мар'ян Дрэўноўскі з Агароднік.

За гэты пункт скупкі яек у Белках трэба падзякаваць Васілю Міхальчуку, які добра спраўляецца, а таксама трэба падзякаваць праўленню ГС у Нарве, што яно дбае, каб сяляне трацілі як найменш каштоўнага часу, і арганізуе такія пункты скупкі нават у прыватных хатах.

Але яшчэ трэба падказаць праўленню ГС, каб разважыла і арганізавала пункт скупкі бутэлек, каб іх не вазіць прадаваць у Нарву.

**М. Лук'янюк**

## Яшчэ аб Рудутах

Вёска Рудуты Арлянскай гміны змяніла сваё аблічча. З драўлянай і саламянай амаль поўнасцю стала мураванай, а яе жыхары больш заможнымі.

Але чаму змяніла сваю назву? Чым на гэта заслужыла і што мае супольнага старая назва з сучаснай?

Паводле люстрацыі з 1577 года, называлася Рудолты. Паводле Геаграфічнага слоўніка таксама Рудолты, паводле сучаснай карты Белавежскай пушчы — Рудолты. У хранікарскіх царкоўных запісах стаіць: „Крестьяне деревни Рудольт“, у гаворцы мясцовай — Рудуўты, а ў спісках выбаршчыкаў, спісках мясцовасцей выбарчага ўчастка, у дакументацыі гміны і на дарожных паказальніках — **Рэдуты.**

З абароннай рэдутай вёска нічога ніколі супольнага не мела і не мае. Проста дзесьці-хтосьці перакруціў вымаўленне. Думаю, аднак, што варта вярнуць вёсцы яе сапраўдную назву, бо яна і гістарычная, і прыгожая.

**М. Л.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### КОЖНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА САБЕ РЭПКУ СКРАБЕ...

У 21 нумары тыднёвіка „Ніва“ наш карэспандэнт прапанаваў выкарыстоўваць аўтобусы большых гайнаўскіх прадпрыемстваў таксама для перавозу на працу і з працы рабочых з іншых, меншых прадпрыемстваў, якія не маюць сваіх уласных аўтобусаў. У Гайнаўцы такіх аўтобусаў сем. Яны ездзяць, як сцвярджае наш карэспандэнт, без ніякага маршруту, кожны, як хоча. А добра было б, каб гэтыя аўтобусы, едучы з фабрыкі па сваіх рабочых, не ехалі па-пустому, а бралі па дарозе рабочых з іншых прадпрыемстваў і падвозілі, куды трэба. Аўтар заметкі падае ў ёй канкрэтныя прыклады, як зрабіць, каб лепш выкарыстоўваліся гэтыя сем рабочых аўтобусаў, падкрэсліваем гэтых р а б о ч ы х аўтобусаў. Ён прапанаваў, каб гарадская ўправа апрацавала распісанне для ўсіх рабочых аўтобусаў дзеля таго, каб было гэта на руку і прадпрыемствам, і рабочым.

Мы атрымалі адказ у гэтай справе намесніка начальніка горада, які прыводзім ніжэй. Толькі не вельмі мы з ім згаджаемся. У ім ёсць падтрымка для ўсё актуальнай прымаўкі: „кожны (прадпрыемства — дапісак (ця) сабе рэпку скрабе“...

(ця)

„Odpowiadając na pismo z dnia 1.06.1976 r. w sprawie właściwego kursowania samochodów dowożących ludzi do pracy, Urząd Miejski po uprzednim zasięgnięciu opinii od dysponentów pojazdów uprzejmie informuje, że wspomniane samochody kursują w/g ściśle określonego czasu i ustalonych miejsc zatrzymywania się.

Pojemność kursujących samochodów dostosowana jest do liczby dojeżdżających pracowników.”

Zastępca Naczelnika Miasta
inż. Stanisław Kostera

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Імпарттумар



# КРОС



Як хто, а я люблю вандраваць пяшком. Не тое, што некаторыя турысты, якія пазіраюць на свет з акенца аўтамашыны.

Помню, мінулым летам крочыў я па шашы, што звівалася сярод пагоркаў. Проста так, без нейкай мэты, дыхаў і нагульваў апетыт. Былі на мне шорцікі, блакітная маечка, тапачкі — лёгкі летні ўбор. Цела дыхала кожнай порачкай, прыгажосцю!

Неўзабаве сонца пачало прыпякаць, і асфальт ледзь не прапальваў падэшвы. А побач з шашою, між іншым, цягнуўся фруктовы сад. Цяністае месцайка ў высокай траве вабіла адпачыць. Я выбраў раскідзістую яблыню, улёгся пад ёю і пад спеў конікаў і гудзенне пчол соладка задрамаў. Разбудзіў мяне разъюшаны голас:

— А ну, уставай зараз жа! Я табе пакажу, як качацца на траўцы ў чужых садах!

Я спалохана ўскочыў на ногі, яшчэ не разумеючы, чым правініўся, але на ўсялякі выпадак вырашыў не пярэчыць. Разъюшаны садоўнік вырваў кол з плоту і абрушыў на мяне кіпячы каскад слоў, з якіх самымі ветлівымі былі:

— Вось я табе зараз, валацуга няшчасны, пакажу, як красці яблыкі!

Прадбачлівы ад прыроды, я не стаў чакаць, пакуль ён агрэе мяне калом, і стрымгалоў рвануў цераз крапіву.

Ах, вы, напэўна, нават не ўяўляеце, якое гэта вострае і моцнае адчуванне, калі імчыш у шортах па крапіве! Гарыш, здаецца, увесь, уключаючы пупок і душу. Словам, у адзін міг вынесся я на шашу. Не зніжаючы тэмпа, я імчаў па дарозе мінут дзесяць без аглядкі, як раптам прыкмеціў, што з аднаго і з другога боку да шашы збягаюцца людзі. Ну, думаю, прапаў. Не інакш той гад садоўнік клікнуў на дапамогу сваіх людзей. А дарога ўжо перакрыта натоўпам, і назад павярнуць таксама немагчыма — патыліцай я адчуваю гарачы подых праследавацеляў. Што рабіць?

А, была не была! Прадчуваючы, як гэтыя малайцы мяне зараз будуць дубасіць па спіне, я вырашыў стралой праімчацца скрозь блакаду. Заплюшчыў вочы і... трапіў проста ў абдымкі аднаго бамбізы, які, здаецца, быў у іх за галоўнага. Я ўжо захныкаў было, молячы яго аб літасці, але бамбіза ласкава ўсміхнуўся, моцна паціснуў мне руку і павіншаваў з... перамогай.

Толькі потым я даведаўся, што на гэтым адрэзку шашы праходзіў крос і я прыйшоў да фінішу першым...

**Іозэф Тот** (Румынія)





**„...Якая несправядлівасць! — абураўся злаславец. — Справядлівасць трыумфуе!“**

# НІЎКА



*Стары спосаб, новы спосаб...*

## ПАЧЫНАЮЧЫ РЫБАК

*Бось насаджан чарвячок*
*На танюсенькі кручок.*
*Ўзмах вудзільнам —*
*і сядзі,*
*У ваду пільней глядзі.*

*Можа, трапіцца карась,*
*Можа, карпік, можа, язь?*
*Толькі я сяджу дарма —*
*Рыбкі той чамусь няма.*

*Кінуў вуды, спінінг ёсць.*
*Ну, трымайся, ягамосць,*
*Будзеш ты ў мяне,*
*шчупак,*
*Паласуюся я ў смак.*

*Але зноў — усё дарма,*
*Нічагусенькі няма.*
*Ой ты, рэчанька-рака,*
*Выручай жа рыбака!*
*Ні карась, ні шчупачок*
*Не бяруцца на кручок.*

*Нарадзіўся ў мяне план:*
*Лепш паеду ў „Акіян“,*
*„Налаўлю“ я ў міг які*
*Мойвы, хека і траскі...*

**Віктар Шымук**





## ДОБРАЯ МАМА

— Чаму гэта ваша дзіцё так доўга плача?

— І не ведаю, кума. Ужо пяты раз яго аддубасіла, а яно ўсё раве.

## ЦІ ХУТКА Ў ШКОЛУ?

Вовачцы чатыры гады. Ён вельмі любіць маляваць, ведае напамяць некалькі вершыкаў і песень — пра зайчыка і ёлачку, пра коніка-стрыгунка, пра сонейка і хітрую лісічку... Умее нават лічыць на пальцах да дзесяці. Пытаюць Вовачку:

— А ці хутка ты пойдзеш у школу?

— Праз тры пальчыкі! — упэўнена адказвае Вовачка.

## ГРЫБОВЫЯ ДЗЕЦІ

Пяцігадовая Волечка хваліцца:

— Мы з мамаю хадзілі ў грыбы. Мама набрала поўны кошык. І я знайшла адзін грыб. Вя-ялі-ізны! А пообач яшчэ сядзелі яго дзеткі...

## НААДВАРОТ

— Калі так цяжка піць горкія лекі, думайце, што гэта піва, — гаворыць Кастусю доктар Знахарук.

— А ці не лепей, паважаны доктар, зрабіць наадварот: піць піва і думаць, што гэта лекі? — запытаў Кастусь.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Што ты робіш? — пытаецца сусед у суседа.

— Як што? Вучу алфавіт Брайля для сляпых.

— А навошта гэта табе? Хіба ў цябе пагаршаецца зрок?

— Дзівак, не разумееш: проста я змагу чытаць, не запальваючы электрычнасці.

*

— Ты, відаць, з глузду з'ехала! Навошта ты бярэш чорную сукенку на пляж?

— Трэба заўсёды ўсё улічваць. Мой жа муж не ўмее плаваць...

*

— Джон, калі на рабоце даведаюцца, што я выйшла замуж, мяне звольняць.

— Трымай гэта ў тайне.

— А што, калі ў нас народзіцца дзіця?

— Мы папярэдзім яго, каб яно не прагаварылася.

*

— Сэр, вы пакрыўдзілі майго сябра, назваўшы яго клапом! Ён выклікае вас на дуэль. Якую зброю вы выбіраеце?

— ДДТ!

## ЗДАГАДАЎСЯ

Маленькі Рыгорка пытаецца ў свайго сябрука:

— Васька, а ты ведаеш, чаму ў зайца вушы доўгія?

Васька доўга думаў, а потым сказаў:

— А-а здагадаўся! Заяц, калі быў маленькі, не слухаўся свайго таты.

## АПРАЎДАЛАСЯ

— Сёння вельмі цвёрдае мяса ў супе. Ты, дачушка, відаць, не даварыла яго.

— Не, мамачка, я варыла дакладна па рэцэпту. У ім сказана: кілаграм мясаварыць дзве гадзіны. Я купіла паўкілаграма і варыла адну гадзіну.

## ШКАДА

Размова двзюх дам:

— Як шкада, што ў вас не баліць вантроба! У мяне ёсць такое цудоўнае лякарства!



*Спачатку патрэніруемся дома.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юрчук з Зарачанаў, Анны Купрыяннік з Саколкі, Альжбеты Пячынскай з Пілік, Валі Наумюк і Гені Нічыпарук з Клейнік змяшчаем песню:*

# MOJA JULIO!

**słowa: M. Łebkowski i St. Werner**
**muzyka: Henryk Klejne**
**śpiewa Wacław Masłyk i „Partita“**

Julio!
Moja nieznana,
moja daleka.
Julio!
Dotąd daremnie
na ciebie czekam.
W jakiej jesteś świata stronie?
Nie w Weronie, na balkonie.
Może jesteś całkiem blisko,
może mieszkasz gdzieś nad Wisłą.
Nasza miłość to nienapisane dzieło...
Daj mi jakiś znak, bo czekam.
Twój Romeo

Julio!
Jesienne ścieżki
w liści ulewie.
Julio!
Gdzie twoje miasto —
tego nikt nie wie.
Listy nigdy nie wysłane
słońce pieczętuje ranek.
Dramat ktoś ułoży o nas,
że ta miłość niespełniona
od spojrzenia, zapatrzenia się zaczęło..
Daj mi — Julio — znak, bo czekam.
Twój Romeo.



# КУРЁЗЫ

## ХАЛАДЫ І НУДЫСТЫ

З-за халоднага надвор'я мінулым летам рэзка скарацілася членства ў велінгтонскім клубе нудыстаў. „Халады ўплываюць на нас больш адчувальна, чым на любую іншую спартыўную арганізацыю“, — паскардзіўся прэзідэнт клуба Джэф Хэтфілд, рашуча прыпыняючы сябе і сваіх калег да спартсменаў. „Цяпер мы падумваем над збудаваннем для нашых заняткаў спецыяльнага закрытага памяшкання, — працягваў ён. — Але ў будучым сезоне разлічваем дабіцца ад гарадскіх улад дазволу выкарыстаць адзін з грамадскіх пляжаў“.

## ПОШТА БЕЗ АДРАСА

Адпраўка і атрыманне карэспандэнцыі ў Эфіопіі да гэтага часу звязаны з пэўнымі цяжкасцямі. Паслаць пісьмо яшчэ не так складана — дастаткова дабрацца да бліжэйшага паштовага аддзялення або галоўнага паштамта і апусціць яго ў паштовую скрынку. Але атрымаць пісьмо на дом немагчыма. Паштальёнаў у Эфіопіі не існуе.

Ды і як разносіць пошту, калі да нядаўняга часу ў сталіцы краіны Адыс-Абебе і іншых гарадах, не гаворачы ўжо аб вёсках, дамы не былі пранумараваны? Каб указаць свой адрас, трэба было назваць вуліцу і якінебудзь бліжэйшы арыенцір — кінатэатр, буйны магазін або, нарэшце, лаўку, бензазаправачную калонку.

Нумары на дамах Адыс-Абебы і яшчэ некалькіх гарадоў пявіліся толькі восенню мінулага года. Паштовых скрынь на дамах пакуль яшчэ няма.





**Навошта працаваць добра, калі можна працаваць куды лепш?**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024